# ДУБРОЎСКІ НАСТРОЙ №92

НАРОДНЫ БАЯВЫ ЛІСТОК ДУБРОВА ПАРЫЦКІ ПАВЕТ ЧЭРВЕНЬ 2006

## ШЫРАЙ ШЛЯХ НАРОДНЫМ АГРАМЯСТЭЧКАМ!

Няма аніякага сумневу, што аграмястэчкі- гэта тая кура, што нанясе кажнаму, хто будзе круціцца ля яе, залатыя яйкі.Праўда, у галіне ідэалагічнага забесьпячэнне элегантнага праекту ёсьць яшчэ непачаты край стваральнай працы.(Крэатыву, пасённяшняму).Так, німа цыклу песень і прыпевак, прысьвечаных аграмястэчкам і выгодам іхняга існавання.Бракуе сюіт, кантат, араторый, рэчытатываў, аперэт, опер, сарсуэл і зінгшпіляў.

Няма карагодаў і балетаў з падбалетамі.Але рана, рана шчэ пісаць рэквіем. Мы, вясковыя жыхары, шчэ не нацешыліся сваім новым статусам аграмесьцічаў. Цудоўны эксперымент мусіць дасьпець да свайго ціхага скону, як і сусьветна вядомая Бабілонская вежа камунізьму. Дзе ягоныя зіхоткія вяршыні не за гарамі? Дзе бясплатныя халяўныя сталоўкі і «ўсё па патрэбнасьці»?! Заміж гэтага чуцён грозны начальскі зык «народ павінен за ўсё плаціць».

Кароста, натуральная кароста шэрагу дуброўскіх жыхароў у спалучэнні з вашыма -з блыхамі ці безякая розьніца?- пакрысе пакрывае яркія перспектывы аграмястэчак.

Сп. раённыя начальнікі старанна палічылі, колькі ў Дуброве прыватных лазьняў і ванных цаброў і на гэтым разьліку будуць рабіць выснову, ці патрэбна аграмястэчку лазьня ці не, адбудоўваць лазьню ў Дуброві ці не.

Штогод каланіяльны рэжым цьвенькае пра шасьцідзесяцізьнечымгоддзе перамогі.Тэлевізар пераконуе, што ўсе кругом сукі і жывуць як сьвінні.

А тое, што кароста займае сталае мейсца між хвароб, выкліканых савецкай антысанітарыяй, асабліва між старэйшых людзей- гэта не зьніжае значнасьці вялікай перамогі над Германіяй. Трэба будзе - перамогам шчэ. І шчэ.

**Але не толькі кароста** яўная прыкмета аграмястэчак. Недзе тутака арцель пасеяла буракі. Але на тыя буракі патрэбныя гароўныя рукі.І пайшло аграместачковае падначальства скрэбці тыя рукі ў школе, хаце культуры, дзіцячым садку, усюды, дзе народ, на перадавую аградумку, займаецца не той працай, то бок б”е лынды, замест таго, каб задраўшы дупу да неба, распазнаваць буракі ад пустога зелля. Жанок і дзяцей нават не папярэдзілі, што напярэдадні плантацыю апрацавалі хімікатамі супраць нейкага ліха і працаўніцы ледзь жывыя вярнуліся дамоў.

Тэму тутэйшага аграместачковага патрыятызму могуць працягнуць маладыя працоўныя Андрэй Т. і ягоны сусед Сяргей С. Хлопцы спраўна атрымліваюць у арцелі кішанёвыя 80.000 рублёў за месяц. Гэта нешта каля 40 амэрыканскіх даляраў. Самі разумееце, радасьць у іх прэ празь меру і порткі.

Добра быць камендантам аграмястэчка ў Усходняй Беларусі: закарэлая каростаю, з прыгоннымі «бураковымі беларусамі»- гэта вам не «бураковыя палякі» ў Даніі!-, з таннаю раб. сілаю, з ЛПП пад бокам, дзе нявольнікі алкаголю і дыктатуры таксама змагаюцца ажно да бойкі за ўраджай...

Так што старшы па нацыяналістычнай ідэялогіі райвыканкама сп. Мяркулаў можа сьмела рэкамендаваць школкам тэму чарговага конкурсу патрыятычнага твору: «Божухна, як жа я ганаруся, як я ганаруся, што жыву тутака, дзе вечна май саракпятага і дзе німа кароcты капіталістычнае эксплюатацыі».

Старыя пеньсіянеры задаволеныя: яны ніколі не бачылі столькі і такіх тавараў, ніколі не мелі магчымасьці есьці столькі хлеба і булак. У іх ніколі не было столькі грошай, каб траціць на сябе. У іх ніколі не было столькі міру і такога харошага карміцеля Лукашэнкі.

Толькі як жыць Андрусю ды Сярожу? Як пазбыцца кароcты?

## УЦЯКАЮЦЬ АД АТХЛЫ

Навідавоку,ох, навідавоку рост дабрабыту ў Дуброві. Не, не маніць тэлевізар.

Бадзяючыся па Дуброві можна сям-там пабачыць на сьценах хат спадарожнікавыя антэны, талеркі. Першымі масавае спажыванне касьмічных даброт распачалі калгасныя бугры.За імі папёр і іншы, больш-менш вольны на грошы люд.

Не спажываць жа зімоўскае пойла. Адна жанчына наўпрост парадавалася: «Як добра, што не бачу Ягонай морды».

Хай перакрывае Лука расейскія канавы сваімі клаакамі. У Дуброве антэны пазіраюць на поўдзень.

Дарэчы, між гледачамі спадарожнікавых праграмаў адзначаецца, што украінскія канавы цікавейшыя за маскоўскія.

Мо народ і далей пачне разьбірацца і пакрысе вучыць розныя мовы. Так і рушым еўрапейскім шляхам. А Ён хай сам сваім цешыцца. Ягонаму тэлевізару нішто не паможа.

## ПРЫМУСАМ У ПРАФСАЮЗ

Адзін знаёмы- назавём яго Бэн Ладан- даўно працуе ў Шацілках.Афіцыйны прафсаюз яму не дужа быў патрэбны, таму і не быў Бэн Ладан як сказалі б англічане, юніянізаваны. Нікому аніякіх прафскладак не быў вінен, грошы мог патраціць на піва.

Але ў сувязі з павышанай пільнай увагай улады да такіх самых сабе вольных грамадзян гукнуў яго неяк начальнік:»Маю шчаслівую навіну для цябе, Бэня?» «І што ж гэта за навіна?», пацікавіўся волялюбны Ладан.»А тая, што годзе быць Міколкам-паравозам, а трэ ўступіць у прафсаюз. Гэта рэкамендацыя зьверху, з Гомлю.Так што калі хочаш адпрацаваць да пеньсіі- пішы заяву.»

Скрыгануўшы кутнімі зубамі Бэн Ладан надрэпаў заяву аб добраахвотным далучэнні да хаўрусу «Лявон Козік і К°».

І не падумаў наш Бэня спасылацца **на пункт 2 артыкулу 20 «Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека», які кажа:»<u>Ніхто не можа быць прымушаны ўступаць у якую-небудзь асацыяцыю».</u>**

Можа! Яшчэ як можа! Што школьных пацаноў штурхаюць у кіршэнь у БРСМ, што дарослых працоўных у кішанёвы прафсаюз.

Фантасмагорыя, а не быццё.

Раней піва было толькі для членаў прафсаюза, зараз ужо і праца толькі з ласкі дыктатара.

Як у Італіі пры Мусаліні, акурат як пры фашысьце Мусаліні. Ісьцін Гаспод!

## ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЛАДОЎКА.

Свабода неадасобная ад народаўладдзя, народаўладдзе- ад дабрабыту большасьці грамадзян. Нічога з трох памянёных каштоўнасьцяў у Беларусі німа: ні свабоды, ні дэмакратыі (народаўладдзя), ні ўстойлівага дабрабыту.

Акупацыйны протафашыстоўскі рэжым праз рэпрэсіўныя законы зрабіў так, што любую негвалтоўную мірную грамадзкую дзейнасьць ён разглядае як дзейнасьць крымінальную. Любую арганізацыю простых грамадзян, калі яна не зарэгістравана рэжымам- а зарэгістраваць яе папросту зараз немагчыма- улада аўтаматычна абвяшчае тэрарыстычнай.

Так і незарэгістраваная арганізацыя «Малады Фронт»падпала пад рэпрэсіўнае дзяржаўна-тэрарыстычнае заканадаўства і некалькі ейных сяброў сядзяць у турмах, лічы ні за што, як колісь дуброўцы ў 1932-33 гадох. Таму сябры арганізацыі, што засталіся на волі распачалі палітычную галадоўку, каб неяк прыцягнуць увагу ўлад і грамадзкасьці да яўна ненармальнага стану адносін дзяржавы і грамадзян. Галадавалі чалавек 20, між іх былі і падлеткі. Але каго чуе ўлада ў Беларусі? Халуёў і падліз.

Маладым людзям шкодна галадаваць доўга. Таму, калі справа пра рэпрэсіі і пратэст супраць яе сталі добра вядомымі, хлопцы і дзяўчаты па просьбе старэйшых людзей галадоўку спынілі.

Неразумныя людзі кпілі з галадоўнікаў, маўляў рабіць ім няма чаго.

Але што рабіць людзям, ад якіх забралі ўсе правы? Як дзеіць іначай, калі ўлада глухая ці прытвараецца такой? Што ж рабіць, калі галадоўка- адзінае, што застаецца чалавеку?

От табе аніякія правы не трэба, то ты й не галадуеш.

Няма як адбіцца ад працы... дзень-год... смажыць...

Знайдзі хвілінку, дай спачыць рукам і нагам, паслухай «Свабоду».Ад 06 да 08 раніцы- 31 метр і ад 18 да 24 увечары-19 і 41 метр.

## ЦЯЖКАЯ ПРАЦА

Заходзячы часам у вясковую Дуброўскую краму-цеснаватую, але даволі прыемную-, нельга не зьвярнуць увагу на тое, што жанчыны-прадаўшчыцы працуюць яўна ў ненармальным рэжыме. У сувязі з ростам дабрабыту пеньсіянераў і, адпаведна, іхніх дзяцей, народ у краме ёсьць заўсёды. І вось працуюць жанчынкі на нагах ад 9 раніцы да 20 вечара-гадзін дзесяць не прыседуючы. Такія ўмовы працы не могуць не выклікаць сталую стомленасьць і псіхічную ды псіхалагічную напружанасьць. А там дзе раздражнёнасьць- там ні якаснай працы ні здароўя.

На гэтай глебе не могуць не ўзьнікаць розныя канфлікты - наступства крывасмокавых умоў працы.

На добры лад разумны начальнік заўсёды дбае не пра здушэнне незадаволеных, а на ўхіленне крыніцы дыскамфорту: работнікаў трэба цаніць.

Жанчыны ў роспачы: і працаваць так далей няможна, але і пазбыцца працы не хочацца.

Зірніце, як у Беларусі зьдзекуюцца з жанок: дзе малааплатная або цяжкая праца- тамака бабы. Хай сабе догляд і даенне кароў, навучанне дзяцей ці продаж у краме.

Ёсьць адзін надзвычай эфектыўны сродак дамагчыся свайго: забастоўка.

Але гэты прыём барацьбы аніяк не засвоены нашымі працоўнымі, бо ўсе яны распыленыя, атамізаваныя перад сваім непрыяцелем.

Трэба сьмялейшымі быць у абароне сваіх правоў. У начальства свае задачы, у работніка- свае.

Вучыцца бараніцца трэба, слухаць «Свабоду» трэба.

## КУТАЮЦЬ КАНАНІЧНУЮ ТЭРЫТОРЫЮ?

Спужаўшыся паходу рыскіх папаў на Ўсход маскоўская фундаменталісцкая праваслаўная царква пачала кутаць «сваю» кананічную прастору крыжамі маскоўскага ўзору. Так, на раздарожжы ля Мядкова, дзе малочны завод- чаму не фабрыка?- работнікі фундаментальна ўсталявалі гэны хрысьціянскі сімвал. Але беларускі праваслаўны крыж не такі, як маскоўскі і шчэ невядома, ці будзе ён эфектыўны супраць тутэйшай нячыстай нятруджанай сілы.

Шчэ гадоў трыццаць таму сям-там ля вёсак можна было пабачыць народныя крыжы з рушнікамі. Потым камунізм стаў больш лютым, крыжы зьніклі, а вось зараз ізноў нехта сур"ёзны- нават кампрэсар з адбойным малатком прыцягнулі- схамянуўся. Цяжкавата даць веры ператварэнню камуністычнага Саўла ў Паўла. Паколькі маскоўская царква зганіла сябе супрацаю з атэістычным камуністычным рэжымам і цеснай сувяззю з тэрарыстычным маскоўскім КГБ ейная дзейнасьць мусіць быць прыпынена ў Беларусі.

Незалежнай Беларусі патрэбна і царква незалежная, то бок аўтакефальная.

Беззаконнай уладзе аніякі крыж не памагае.

---

## ПА-ЗА ЗАКОНАМ.

«Ну, як там апазіцыя?», пытае часам які-небудзь балельшчык якога-небудзь ахвіцыйнага легальнага знаёмага апазіцыянера.

А чаго пытаць, калі й так відаць, што практычна ўся законная палітычная дзейнасьць прыраўнана амаль да крымінальнай і практычна ўся апазіцыя крочыць у калоне, дзе крок управа, крок улева альбо скачок на мейсцы падлягае адстрэлу і адстою ў халоднай. Рэжым надзеў кайданы й намордні́к не на апазіцыю, як можа здацца. Ён скруціў увесь народ.

Так, сёння ты не шчувоўкнеш, ты сядзіш ціхенька, твая хата з саменечкага краю і шчэ далей, ты маўчыш і трываеш і цябе за гэта, здаецца, ніхто не чапае.

Але як табе быць, калі табе міліметр за міліметрам будуць наступаць на хвост? Куды табе кінуцца? Да ўлады і начальства? Дык ты ж баісься яго ўгневаць? Да суду і закону? Але закон зараз мае адну арыентацыю-карную. Гэта апазіцыянераў паставілі фактычна па-за законам? НЕ, гэта паставілі найперш твае правы па-за законам.

На выбарах ты не маеш выбару, калі ты не зусім гаўно, то галасаваць цябе загоняць. Такім чынам ты пазбаўлены права абіраць і быць абраным. Ты можаш чытаць толькі тое, што табе падсоўвае прапаганда, ты нікога іншага, акрамя ўлады не бачыш і не чуеш.

Мо табе і так добра, быць бяспраўным і безгалосым.

Але калі нічога не варушыцца, а пануе славутая «стабільнасьць», то што ж будзе далей? Стабільнасьць развалу?

Не за гарамі мясцовыя выбары. Апазіцыя і народ практычна па-за законам.

Трыумф наменклатуры-дуброўская лазьня, руіны кацельні, руіны будынкаў калгасны прыгон. Акурат як у сатанінскіх галівудзкіх мульціках.

-«Ну, як там апазіцыя?»

-«Так як і ты.»

## ВАМПІРЫ Ў БЕЛАРУСІ.

Узяўшы некрафільскі курс на лінію Сталіна лукашысцкі рэжым рады ў сраку цалаваць бальшавіцкім бандытам. Вось нядаўна ў Менск прыперлі з Масквы статую Фэлькі Дзяржынскага, дакладную копію той, што пад час пераварота 1991 году зрынулі ля Лубянкі.

І грошы, гаўнюкі, знайшлі. І энтузіязму праз край.

Сітуацыя зусім не сьмешная. Гэтым актам Лука дае знаць, што ён зьбіраецца рабіць з нашым грамадзтвам і з нашай краінай, а менавіта, будаваць таталітарны тэрарыстычны рэжым. Сталінская лінія, лінія вампіраў і крывасмокаў чырыцца ясна.

Мо хто хоча іншай ілюстрацыі? Калі ласка.

Паставіць статую «залезнаму Фэльку», гэта як бы ў Германіі паставіць помнік Гімлеру. (Не забудзем нагадаць, што кіраўнік Беларусі ў свой час вельмі прыязна ацаніў гітлераўскі рэжым у Германіі).

Ну, раз Фэлькаву статую прытарабанілі, то трэ і сталінскую прывалачы, а там і іншым драконам камунізму...

Акурат будзе на што глянуць рэтратурыстам.

## ЧАРНАГОРЫЯ СТАЛА НЕЗАЛЕЖНАЙ.

Чарнагорыя- па-сербску Црна Гора- стала незалежнай дзяржавай. Ейная тэрыторыя 13.800 квадратных кіламетраў-(каля трэцяй часткі Гомельскай вобласьці)-, а насельніцтва мае 650.000 чалавек. Сталіца - Падгорыца. Мяжуе з Сербіяй, Босьніяй і Албаніяй. Бачыце, краіна малюпасенькая, а не захацела быць з «братняй» Сербіяй.

**Дык на які ляд нам патрэбна гэная Расея, пра змычку зь якой не сьціхаючы цьвенькае рэжым?**

## МАНЭЎРЫ.

У вайсковую ахвоту рэжым прыходзіць штогод.І сёлета беларускія расамахі і васіліскі рашылі падрыгаць войскам.Прыперліся краснапузыя сокалы з Залатой Арды, свае разьмялі крылы.Словам, паказуха была нармальная.

Але...

З нашага сяла пайшоў адзін хлопчык у войска.

Па медычных паказьніках ён не павінен служыць, бо салдацкая справа цяжкая, і нядужаму там не месца.

Але ж не! Пазвалі, прызвалі і ў шпіталь. Хлопец болей у шпіталі пралежаў, чым на нарах у казармі. Але нягледзячы ні на што яго трымаюць.

Кажуць, што ў іхняй часьці служаць з шчэ горшымі дыягназамі.

Ладна, у абароне мы ворага перамогам. А як перасьледаваць з задышкаю? Кажуць, не камісуюць хлопцаў, бо служыць няма каму. Ну, німа, дык нахрэн ліквідуйце тую службу!

А мо лепей кітайцаў наймаць на службу на год-паўтара, раз сваіх няма?

## ПЕРСПЕКТЫВЫ.

Гаўняныя.Зусім гаўняныя. От у першы клас, кажуць, у Дуброўскую школу-заўважым, сёлета ёй спаўняецца 120 гадоў!- самая старая ў нашым Парыцкім павеце- прыйдуць усяго тры дзяўчынкі. У дзіцячым садзе сямёра дзетак. Дзе браць салдат? Чым засяляць аграмястэчка? Хто будзе галасаваць? Дзе ўзяць народ у апазіцыю?

Каго радаваць дажынкамі? Пытанняў багата. Дзе адказ?

Дзе народ, Саша?

## АТРЫМАЛА ДЫПЛЁМ.

Пасьля спраўных год вучобы атрымала дыплём, ну, дыплом, старанная

**Воўчанка Вікторыя.**

Яна робіць у школе настаўніцаю і апекуецца бібліятэкай.

Віншуем Вікторыю з важным дасягненнем у ейным жыцці.

**А тым часам** у Дуброўскай школе прайшлі іспыты ў 9 і 11 класах. У дзевятым класе гэта апошнія іспыты, бо ў сувязі з недарэчным 12гадовым навучаннем першы раз іспыты будуць ужо ў 10 класе.

Кажуць, што каля траціны вучняў 9 класу атрымалі мінімальныя адзнакі-адзінкі і двойкі. Хто як вучыўся...

**Здарэнні:**

Ізноў патрапіў у кіпцюры міліцыянтаў малакваліфікаваны клептаман Аляксандр С. Гэтым разам ён сьцібрыў лісапет у Мітраховіча Зьмітра, і, як высьветлілася потым, бялізну ў Рачковай Сьветы. Бач, фетышыст знайшоўся.

Пайшла ад нас

**Друзік Фаіна Карнеева**

Доўгі час яна прарабіла настаўніцаю.

Хай ёй зямля будзе пухам

Пайшоў ад нас

**Белы Мікалай Іллёў**

Адгараваў і паншчыну і на паноў.
Яму б ды трошкі лепшай долі.
Хай прыме Бог у сваё валадарства
сьціплага гароўніка.

Друкарня І.Масьціцкага 100 асобн.